ГАЗЕТА З БЕЛАРУСІ

# ГОЛАС РАДЗІМЫ

ВЫДАЕЦЦА З 1955 ГОДА ● ● NO.13 (3133) ● ● ЧАЦВЕР, 9 красавіка, 2009

ШТОТЫДНЁВІК "ГОЛАС РАДЗІМЫ" МОЖНА ЧЫТАЦЬ У ІНТЭРНЭЦЕ: WWW.GOLAS.BY



Якасць — не ніжэй за еўрапейскую Стар. 2



Знічкі Айчыны Стар. 3



Сузор'е талентаў на мінскай арэне... Новым прадстаўленнем адзначае 50-гадовы юбілей Беларускі дзяржаўны цырк Стар. 4



ВІТАЛІЙ ГІЛЬ

У шматвекавой гісторыі нас называлі і русінамі, і літвінамі, сёння ж мы — беларусы

# Колькі ж нам гадоў,

## альбо Добрая нагода адзначыць юбілей старажытнага наймення «Беларусь»

Адам Мальдзіс

Сёлета суседняя Літва, як вядома, шырока адзначае тысячагоддзе першага ўпамінання краіны ў пісьмовай крыніцы. З'яўляецца ёю нямецкая хроніка, у якой сказана, што 9 сакавіка 1009 года на "памежжы Літвы і Русі" пакутніцкай смерцю ад рук язычнікаў загінуў архіепіскап-місіянер Бруна Квертфурцкі. У сувязі з вось такім юбілеем у пасольстве Літвы ў Беларусі адбыўся "круглы стол" гісторыкаў і дыпламатаў двух краін, якія абмеркавалі некалькі важных пытанняў супольнага мінулага як да стварэння Вялікага Княства Літоўскага, так і ў час існавання гэтай унікальнай па сваёй шматэтнічнасці і талерантнасці дзяржавы.

На пасяджэнні гаварылася і аб тым, што жыхары Беларусі задаюць рэзоннае пытанне, а ці маюць яны дачыненне да гэтага юбілею. Адказ быў амаль адназначны: так, бо адначасова ж у хронікі называлася і Русь. А гэта агульная назва для ўсходнеславянскіх плямёнаў — крывічоў, дрыгавічоў, радзімічаў, валынян і гэтак далей. Некаторыя даследчыкі, у тым ліку замежныя, сцвярджаюць, што і "літва" — гэта славянскае племя, толькі найбольш балтызаванае. Напрыклад, пра гэта гаварыў на "круглым стале" вільнюскі доктар гісторыі Артурас Дубоніс. Так сцвярджае расійскі гісторык Міхаіл Галдзянкоў у сваёй вострапалемічнай кнізе "Русь — іншая гісторыя: Украіна, Беларусь, Літва" (Масква, 2003, 2008). Суміруючы думкі розных даследчыкаў, ён даказвае, што племя, якое потым дало імя краіне Літве, першапачаткова ўтварылася на нямецкіх землях, на ўзбярэжжы Паўночнага мора, дзе знаходзіўся горад Лютэнбург. А потым яно, пакінуўшы сваіх бліжэйшых славянскіх суседзяў — лужыцкіх сербаў і кашубаў — перасялілася на берагі вярхоўяў Нёмана і Віліі. Пра гэта сведчаць назвы трох вёсак Літва на сённяшняй Міншчыне, па дзве вёскі Літоўск і Літвінавы — на Гродзеншчыне. Пералік можна доўжыць. → Стар. 2

## ВЕСТКІ

### Запрашэнне да партнёрства

**У польскім горадзе Белхатаў адбыўся семінар, прысвечаны магчымасцям інвестыцыйнай дзейнасці ў Беларусі**

Польскім бізнесменам была прадстаўлена інфармацыя аб апошніх змяненнях у беларускім заканадаўстве, скіраваных на стварэнне спрыяльных умоў для работы замежных інвестараў, былі абмеркаваны асаблівасці супрацоўніцтва.

Прадпрымальнікаў зацікавіла магчымасць рэалізацыі бізнес-праектаў на тэрыторыі Беларусі. Удзельнікі семінара выказалі намер наведаць краіну з мэтай больш дэталёвай прапрацоўкі пытанняў па ажыццяўленні інвестыцыйнай дзейнасці. Такі візіт прадстаўнікоў польскіх дзелавых колаў можа адбыцца зусім хутка.

### Для юных чытачоў

**Больш за 300 выданняў дэманстравалі беларускія выдавецтвы ў Кішынёве на XIII Міжнародным салоне дзіцячай і юнацкай кнігі**

Сваю кніжную прадукцыю на выставу прывезлі, у прыватнасці, выдавецтвы "Мастацкая літаратура", "Народная асвета", "Вышэйшая школа", "Харвест", "Беларускі Экзархат" і іншыя. Шырока былі прадстаўлены кнігі-размалёўкі, буквары, адрасныя кнігі для старшакласнікаў.

Дзіцячыя кнігі з Беларусі атрымалі высокую ацэнку і наведвальнікаў, і арганізатараў выставы ў Кішынёве, якія адзначылі іх высокую якасць, выдатную паліграфію.

# ...І зашумяць дубравы

## Прадстаўнікі розных нацыянальнасцяў высадзяць на беларускай зямлі маладыя дрэвы

Іван Ждановіч

Даводзілася чуць легенду пра тое, быццам Якуб Колас і Янка Купала пасадзілі на хутары Смольня ліпы на памяць пра іх першую сустрэчу ў жніўні 1912 года. На самай жа справе пісьменнік пасадзіў іх на год раней, у 1911-м, вярнуўшыся з турмы, прычым разам з любімым сваім дзядзькам Антосем. Ліпы надоўга перажылі дабрадзеяў і па сёння ўпрыгожваюць мемарыяльную сядзібу пры Нёмане. Дарэчы, калі вясной 45-га сям'я Міцкевічаў вярнулася з эвакуацыі, на сваёй мінскай сядзібе Колас найперш пасадзіў бярозу і чатыры дубкі. Пры гэтым жонку, вядома ж, сімвалізавала бяроза, а дубы — самога пісьменніка з сынамі Данілам і Міхасём. І ў памяць пра загінулага на фронце сына Юрку Якуб Колас таксама саджаў дубок, але ён не прыжыўся…

Нядаўна ж стала вядома, што з ініцыятывай высаджваць па Беларусі дрэвы ў гонар 65-годдзя вызвалення краіны ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў і Году роднай зямлі выступілі апарат Упаўнаважанага па справах рэлігій і нацыянальнасцяў і створаны пры ім Кансультатыўны міжэтнічны савет. "Мы прапанавалі паўдзельнічаць у гэтай справе ўсім рэгіянальным нацыянальным суполкам па краіне, — удакладняе прэс-сакратар апарата Міхаіл Рыбакоў. — Пачынанне знайшло разуменне ў Міністэрстве лясной гаспадаркі. Арганізацыйныя структуры розных грамадскіх этнакультурных аб'яднанняў ужо рыхтуюцца да веснавой пасадкі дрэў і гатовы падаць заяўкі на ўдзел у акцыі "Тыдзень лесу-2009"."

Удзел у акцыі змогуць прыняць усе, хто пажадае. Мерапрыемства, лічаць ініцыятары, паспрыяе ўмацаванню дружбы паміж прадстаўнікамі розных этнасаў. І ў памяць пра герояў, якія вызвалялі Беларусь ад фашыстаў, у розных месцах краіны падымуцца сотні маладых дрэваў. Напрыклад, дубамі маюць намер упрыгожыць беларускую зямлю прадстаўнікі ўкраінскіх суполак. Неабходную інфармацыю пра акцыю актывісты могуць атрымаць у абласных арганізацыях, падпарадкаваных Міністэрству лясной гаспадаркі — іх адрасы і тэлефоны змешчаны на сайце апарата Упаўнаважанага.

ЯК СПРАВЫ, ДЫЯСПАРА?

# БЭЗ адсвяткаваў 20-годдзе

Веха ў біяграфіі грамадскай арганізацыі "Беларуска-эстонскае згуртаванне" павета Іда-Вірумаа стала сапраўднай падзеяй

Утульную залу ў Йыхвіскім канцэртным доме, афармленую у беларускім нацыянальным стылі, запоўнілі больш за тысячу чалавек. Павіншаваць юбіляраў сюды завіталі прадстаўнікі ўсіх беларускіх суполак Эстоніі — Асацыяцыі беларусаў, культурна-асветніцкага таварыства "Крыніца" (г. Сіламяэ), арганізацый "Сябры" (г. Нарва), "Ялінка" (г. Маарду), "Лёс" (г. Талін), а таксама аб'яднанняў іншых нацыянальных меншасцей. Для ўдзелу ва ўрачыстасцях з Беларусі прыехалі дэлегацыі Пастаўскага і Салігорскага раёнаў, якія маюць пагадненні аб рэгіянальным супрацоўніцтве з паветам Іда-Вірумаа.

Гучалі словы падзякі за плённую дзейнасць БЭЗа. Юбіляраў віталі віцэ-канцлер Міністэрства культуры Эстоніі Ане-Лі Рэйма, дэпутат парламента Валерый Корб, старшыня Йыхвіскай воласці Таўно Выхмар, старшыня Салігорскага раённага Савета дэпутатаў Лідзія Клішэвіч, загадчыца аддзела культуры Пастаўскага райвыканкама Наталля Булавінцава. Начальнік аддзела апарата Упаўнаважанага па справах рэлігій і нацыянальнасцяў Савета Міністраў Беларусі Аляксандр Сасновіч перадаў калектыву суполкі камплекты нацыянальных касцюмаў.

Генеральны консул Беларусі ў Эстоніі Аляксандр Астроўскі ўзнагародзіў актывістаў БЭЗа граматамі за актыўны ўдзел у прапагандзе беларускай культуры і перадаў у бібліятэку суполкі нізку беларускіх кніг.

Пад авацыі гледачоў прайшоў канцэрт з удзелам фальклорнага ансамбля "Паазер'е" з Паставаў і трыо "Натхненне" выкладчыкаў Салігорскай дзіцячай музычнай школы.


БЕЛТА

На цяплічным камбінаце "Бярэсце" гаспадараць эфектыўна

# Якасць — не ніжэй за еўрапейскую

Вольга Кабякова

**На Оксфардскім саміце лідэраў бізнесу, навукі і мастацтва, які адбыўся ў Вялікабрытаніі, брэсцкі цяплічны камбінат "Бярэсце" атрымаў міжнародную ўзнагароду "European Quality".**

Оксфардскі саміт лідэраў лічыцца ў еўрапейскіх колах эксклюзіўнай платформай для ўсталявання дзелавых кантактаў, прэзентацый і абмену новымі ідэямі. Адным з яго арганізатараў выступае Еўрапейская Бізнес Асамблея.

Як гучыць фармуліроўка, узнагароду беларускае прадпрыемства атрымала "за імкненне дасягнуць высокай якасці прадукцыі і паслуг у адпаведнасці з еўрапейскімі стандартамі". Сёння Брэсцкі цяплічны камбінат мае самую высокую рэнтабельнасць і займае вядучую пазіцыю сярод аналагічных прадпрыемстваў у краіне, з'яўляецца буйным экспарцёрам агародніны. Цяпер тут рэалізуецца праект па выкарыстанні цяпла геатэрмальных вод для абагрэву цяпліц.

# Залог поспеху — у кааперацыі


Гэты груз адпраўціца ў Казахстан

Валерый Сідорчык

**Збожжаўборачныя камбайны "Гомсельмаша" будуць збірацьу Казахтсане**

Першая партыя машынакамплектаў для будучых камбайнаў ужо адгружана ў Гомелі. Зборка абсталявання ў Казахстане будзе праходзіць з удзелам беларускіх спецыялістаў. Для гэтага на Кастанайскі дызельны завод накіруюць інжынераў, наладчыкаў і вадзіцеляў-выпрабавальнікаў. Як расказаў Уладзімір Фралоў, дырэктар маркетынг-цэнтра прадпрыемства-пастаўшчыка, прамысловая інтэграцыя дазваляе гомельскім сельгасмашынабудаўнікам мець прэферэнцыі ў выглядзе зніжэння мытных плацяжоў, вызвалення ад выплаты падатка на дабаўленую вартасць пры продажы, а таксама магчымасць перадачы машын і агрэгатаў у лізінг. У сваю чаргу Казахстан атрымлівае ліцэнзійную тэхніку, якая мае значную частку камплектуючых дэталяў мясцовай вытворчасці.

Вынікі такой каапераціі ўжо ёсць, летась аналагічным чынам былі сабраны першыя камбайны. Гэтая тэхніка надзейна адпрацавала на ўборцы збожжавых культур і атрымала станоўчыя водгукі казахскіх аграрыяў. Таму цяпер вырашана павялічыць сумесную вытворчасць аж у чатыры разы.

НАВІНЫ З ТАВАРЫСТВА "РАДЗІМА"

## Месца сустрэчы — Мінск

Больш за 20 гадоў таварыства «Радзіма» праводзіць курсы для кіраўнікоў і ўдзельнікаў мастацкай самадзейнасці беларускіх суполак замежжа. На іх пабывалі ўжо дзесяткі прадстаўнікоў дыяспар з Расіі, Украіны, Літвы, Латвіі, Эстоніі, Польшчы, ЗША, Канады, Аргенціны і іншых краін. Мы даем магчымасць носьбітам беларускай культуры з замежжа павучыцца, як працаваць з фальклорнымі калектывамі, праводзіць фэсты. Нашы сябры папаўняюць у Мінску песенны і танцавальны рэпертуар гуртоў, у якіх працуюць, каб потым лепш прадстаўляць за мяжой нашу культуру.

## Выстава адбудзецца ў маі

На працягу трох апошніх гадоў мы арганізуем удзел беларускіх суполак замежжа, якія маюць свае друкаваныя СМІ, рыхтуюць радыё- і тэлеперадачы, актыўна супрацоўнічаюць з мясцовымі сродкамі масавай інфармацыі, у міжнароднай выставе "СМІ ў Беларусі". І сёлета на стэндзе таварыства "Радзіма" будуць прадстаўлены СМІ беларускіх дыяспар. Штогод стэнд рыхтуецца з душой, таму і атрымліваюць нашы сябры ўзнагароды ад арганізатараў.

## Добрая настаўніца "Вясёлка"

Навучэнцы беларускай школы ў Рызе (Латвія) цяпер удасканальваюць веданне беларускай мовы з дапамогай часопіса "Вясёлка". Магчымасць чытаць яго падараваў Віталь Козел, намеснік старшыні Саюза беларусаў Латвіі. Праз таварыства "Радзіма" ён аформіў дзецям падпіску на "Вясёлку", а летась выпісваў ім газету "Зорька". Па словах дырэктара школы Ганны Іванэ, беларускія дзіцячыя газеты і часопісы вельмі дапамагаюць вучням авалодаць мовай, знаёмяць іх з равеснікамі з Беларусі, іх школьнымі справамі.

**Галіна Навіцкая, каардынатар праектаў таварыства "Радзіма"**

# Колькі ж нам гадоў,

альбо Добрая нагода адзначыць юбілей старажытнага наймення «Беларусь»

(Заканчэнне. Пачатак на стар. 1)

Тут важна, гаворачы пра Русь, не падменьваць сённяшнімі панцыямі ранейшых. Назвы краін і народаў таксама вандруюць (яскравы прыклад — Прусія). У часы Вялікага Княства Літоўскага сённяшнюю Расію называлі Масковіяй, а яе жыхароў — маскавітамі. А тэрыторыю ж усходніх частак сённяшніх Беларусі і Украіны іменавалі Руссю, што відаць і з запісу ў нямецкай хроніцы 1009 года, а іх насельнікаў называлі агульным імем русіны. З вядомага сцвярджэння Карла Маркса таксама відаць, што існавалі дзве Русі — Русь Літоўская і Русь Маскоўская. Прыгадаем для доказу, што беларускі першадрукар Францыск Скарына ў адным выпадку, калі гаворка ішла пра дзяржаўную належнасць, называў сябе ліцвінам, а ў другім, калі меўся на ўвазе этнас, — русінам.

Такім чынам, сёлетні тысячагадовы юбілей Літвы мае самае прамое дачыненне і да беларускіх земляў. Дастаткова ўспомніць, што на іх, у Навагарадку (Навагрудку) было ўтворана Вялікае княства Літоўскае, а ў 1253 годзе адбылася першая і апошняя на тэрыторыі ВКЛ каранацыя: карону атрымаў запрошаны на трон з суседняга, этнічна балцкага княства Міндаўг (Міндаўгас). Але гэта абсалютна не значыць, што русіны (крывічы, дрыгавічы, радзімічы) да тае пары не мелі сваёй дзяржаўнасці. Як вядома, Полацкае княства існавала ўжо ў другой палове IX стагоддзя, а яго сталіца ўпамінаецца ў летапіснай "Аповесці мінулых часоў" пад 862 годам. Пад 980 годам у той жа крыніцы называецца сталіца другога княства — Тураў. Калі б мы, беларусы, не былі такімі сціплымі, то даўно адзначалі б гэтыя даты як юбілейныя і для сваёй дзяржавы, і для свайго народа — "русінаў", потым "ліцвінаў" і пасля наступных трансфармацый (наша бяда, што ў гісторыі мы часцей за ўсё выступалі пад іншымі, пераважна тымі, што давалі нам суседзі, імёнамі), нарэшце, беларусаў.


Старажытныя муры Мірскага замка

Што ж датычыцца назвы Беларусь (Белая Русь, Alba Russia), то неяк ужо ўсталявалася ў навукова-гістарычным асяродку, быццам упершыню яна была зафіксавана ў пісьмовай крыніцы ў сярэдзіне XIII стагоддзя: якраз у часы Міндаўга, калі адзін ірландскі законнік-місіянер прыехаў да крыжакоў, каб разам з імі зброяй навярнуць на "новую веру" язычнікаў-жмудзінаў, усходней якіх месціліся якраз нашы продкі (Alba Ruscia), тады ўжо хрысціяне. Але чамусьці засталася незаўважанай публікацыя ў "Голасе Радзімы" (2008, 28 лютага) дзе ў артыкуле "Нашы карані" ўпершыню ў беларускім друку ўслед за прадмовай да "Вугорска-беларускага слоўніка" (Нірэдзьхаза, 2007) прыведзены вельмі важны для нас факт: калі ў 1217 годзе ў Галіцыі каранавалі на трон венгерца Кальмана, то сярод іншых званняў ён атрымаў тытул і "караля беларусаў" (Rex Ruthenorum Alborum).

Такім чынам, праз восем гадоў мы будзем мець усе падставы адзначыць круглы юбілей.

“Магілёў, горад, цэнтр Магілёўскай вобласці. За 200 км на усход ад Мінска. Вузел чыгунак (напрамкі на Оршу, Асіповічы, Крычаў, Жлобін) і аўтадарог. Порт на рацэ Дняпро… Існуе шмат легенд і паданняў пра ўзнікненне назвы горада. Адна з іх звязана з імем князя Льва Данілавіча Могія (магутны Леў), які нібыта пабудаваў у 1267 годзе замак у сутоках рэк Дубравенка і Дняпро. Народнае паданне звязвае назву Магілёва з імем асілка Машэкі, над магілай якога быў насыпаны вялікі курган, названы “Магілай Льва”, захавалася ўрочышча Машакоўка…” – чытаем у “Энцыклапедыі гісторыі Беларусі”.

# Знічкі Айчыны



Магілёў. Від на горад і параходную прыстань. Канец XIX ст.


Магілёў. Вакзал. Пачатак XX ст.

**Алесь Карлюкевіч**

Прыгожыя легенды, паданні, якія вядуць і ў свет гістарычных фантазій. Але ж паштоўкі, нават самыя старыя, адрасуюць нас да часоў шматкрат бліжэйшых — у іх і будзем шукаць сучаснікаў гарадскіх вуліц старажытнага горада.

Даследуючы беларускую галіну радавода Аксельродаў (а сярод іх — маладзечанцы паэт Зэлік Аксельрод і мастак Меер Аксельрод, мінчанка паэтэса Алена Аксельрод), сутыкнуўся яшчэ з адным носьбітам гэтага прозвішча. У 1850 годзе ў Магілёве нарадзіўся Павел Барысавіч Аксельрод. Адзін з лідэраў партыі меншавікоў. З 1900 года — адзін з рэдактараў “Искры». Пасля II з’езда РСДРП шляхі яго з бальшавікамі разышліся, Кастрычніцкую рэвалюцыю, зразумела, ён не прыняў. Астатак сваіх дзён правёў у эміграцыі, памёр у 1928 годзе.

Рэвалюцыйную гісторыю Магілёва, Расійскай імперыі на пачатку XX стагоддзя справамі сваімі пісалі Мікалай Мікалаевіч Красцінскі (нарадзіўся ў горадзе на Дняпры ў 1883 годзе), Уладзімір Піліпавіч Горын-Галкін (гэта менавіта ён — аўтар кнігі “Далоў матэрыялізм!: (Крытыка эмпірыякрытычнай крытыкі)”, Мікалай Пятровіч Вішнявецкі…

Давялося аднойчы гутарыць з вядомым даследчыкам магілёўскай даўніны Аляксандрам Ліцьным. Вось што, у прыватнасці, ён заўважыў: “Магілёў, як мне падаецца, быў сапраўднай школай рэвалюцыйных кадраў. Не магу не згадаць такія імёны, як Рахіль Школьнікава-Барысава, Саламон Ганікман, Яфім Цэтлін, Барыс Райнштэйн…”

Пра апошняга з гэтага пераліку можна сапраўды пригоднiцкі, авантурны раман пісаць. Нарадзіўся Барыс Ісаевіч у Магілёве ў 1868 годзе. Ужо на пачатку 1880-х удзельнічае ў народавольчых гуртках у Растове-на-Доне, затым эмігруе ў Швейцарыю. Праз некаторы час жыве ў Францыі. Займаецца перакладам і выданнем рэвалюцыйнай літаратуры. У Францыі навучаецца тэхніцы вытворчасці і карыстанню выбуховымі рэчывамі. Французскія ўлады арыштоўваюць нашага земляка і прысуджаюць яму два гады турмы. У хуткім часе вызваляюць і высылаюць у ЗША. Барыс уступае ў Амерыканскую сацыялістычную рабочую партыю. Прадстаўляе яе інтарэсы ў II Інтэрнацыянале. У 1917 годзе вяртаецца ў Расію.



Магілёў. Вялікая Садовая вуліца. Пачатак XX ст.



Магілёў. Тэатральная плошча. Пачатак XX ст.

Спярша супрацоўнічае з меншавікамі. У 1918 уступае ў РКП (б). Удзельнічае ў падрыхтоўцы Камінтэрна. У 1922–1935 гадах працуе ў выканкаме Камінтэрна. Памёр Барыс Райнштэйн у Маскве ў 1947 годзе…

Калі сёння вы будзеце вандраваць па Камсамольскім скверы (колішні Шклоўскі кірмаш) альбо зазірнеце на Віленскую вуліцу пачатку XX стагоддзя, падыдзеце да будынка былога жаночага епархіяльнага вучылішча (цяпер тут месціцца школа-інтэрнат), то паспрабуйце ўявіць, што Яго Вялікасць Час дазволіў вам зрабіць зваротнае падарожжа. І мо раптам вас чакаюць сустрэчы са знакамітымі ці проста звычайнымі гараджанамі пачатку мінулага стагоддзя. З першага погляду, мажліва, ваша вока зачэпіцца за рысу незвычайных убораў, а далей вы абавязкова разгледзіце твары магіляўчан мінулага. Светлыя, заклапочаныя хіба толькі адным: не згубіць перспектыву жыцця, як зрабіць грамадству і кожнаму з іх асабіста новы, сур’ёзны крок у навуцы, ва ўпарадкаванні жыцця…Не, я не ідэалізую ранейшыя часіны. Але ж углядзіцеся ў про-


Магілёў. Шклоўскі кірмаш. Пачатак XX ст.

цьму гістарычных фактаў: колькі біяграфій навукоўцаў, гісторыкаў, асветнікаў, пісьменнікаў, мастакоў, тых постацяў, што справамі і дзеямі сваімі прыцягваюць і цяпер!..

У 1882 годзе ў Магілёве нарадзіўся Сямён Сямкоўскі. Адзін з супрацоўнікаў часопісаў “Луч”, “Наше слово”, іншых расійскіх выданняў першай чвэрці мінулага стагоддзя. У 1929 годзе быў прыняты ў склад Сацыялагічнай акадэміі АН СССР (сацыялогію бальшавікі не адразу разгледзелі як “варожую” навуку), напісаў шмат работ па сацыялогіі, гісторыі філасофіі і пытаннях метадалогіі навукі. У Магілёве нарадзіўся адзін з заснавальнікаў верталётабудавання Аляксандр Міхайлавіч Ізаксон. У 1928–1930 гг. прымаў удзел у стварэнні першага савецкага эксперыментальнага верталёта. У пасляваенныя гады займаўся даследваннем пытанняў аэрадынамікі. Менавіта навуковыя здабыткі нашага земляка — аснова і сённяшніх навукова-практычных росшукаў у гэтай няпростай галіне.

Горад на Дняпры выправіў у вялікі свет Ісака Рабіновіча, аднаго з буйнейшых савецкіх вучоных у галіне будаўнічай механікі, члена-карэспандэнта Акадэміі навук СССР, заслужанага дзеяча навукі РСФСР, генерал-маёра інжынерна-тэхнічных войск. Доўгі час Ісак Майсеевіч загадваў кафедрай славутага Маскоўскага інжынерна-будаўнічага інстытута. У 1905 годзе ў Магілёве нарадзіўся і адзін з заснавальнікаў вытворчасці хімічнага валакна у СССР Захар Аляксандравіч Раговін. Яго навуковыя здабыткі тройчы адзначаліся Дзяржаўнай прэміяй СССР (двойчы — у час Вялікай Айчыннай вайны!). Менавіта наш зямляк распрацаваў метад атрымання капрона ў 1944 годзе, менавіта Захар Аляксандравіч стварыў фтарлон і мцілон. Наш зямляк — ганаровы член многіх замежных акадэмій. Многія этапы стварэння вядомага прадпрыемства “Магілёўхімвалакно” звязаны менавіта з падтрымкай Захара Раговіна, яго ўплывам на фарміраванне кадравага, навуковага патэнцыялу прадпрыемства.

Магілёў навуковы, асветніцкі, культурны — бязмежная тэма для самай шырокай гаворкі пра многіх славутасцяў, многіх зорак магілёўскай, айчыннай і ўвогуле сусветнай гісторыі.

© В поисках утраченного — Паштоўкі з калекцыі Уладзіміра Ліхадзедава

# Сузор'е талентаў на мінскай арэне

Новым прадстаўленнем адзначае 50-гадовы юбілей Беларускі дзяржаўны цырк. У сталічным шапіто, дзе цяпер ладзяцца выступленні цыркавых артыстаў, — штодзённыя аншлагі

**Уладзімір Ждановіч**

У праграме "Легенды сусветнага цырка" прымаюць удзел у тым ліку знакамітыя расійскія артысты, якія прысвяцілі арэне ўсё сваё жыццё. Мастацкаму кіраўніку Белдзяржцырка Таццяне Бандарчук давялося прыкласці нямала намаганняў, каб сабраць іх разам менавіта ў Мінску.

Адзін з цэнтральных нумароў прадстаўлення — падняцце гіраў, гантэляў і жангліраванне жалезнымі шарамі. Гэта віртуозна робіць заслужаны артыст цырка Расіі Валерый Гур'еў. У свае 62 (!) гады ён, здаецца, без асаблівага напружання паднімае штангі і падкідвае ў паветра стальныя прылады.

А "цвіком" праграмы стала выступленне трох мядзведзяў і сабакі. Сам бачыў, як адзін мядзведзь лёгка выйграў спаборніцтва па перацягванні каната ў чатырох дужых хлопцаў. Потым другі Міша вызначыўся — перамог асілка ў армрэстлінгу. А трэці кудлаты артыст і зусім узняўся пад купал цырка шапіто на матацыкле разам са сваім спадарожнікам — сабакам Шарыкам. А яшчэ дрэсіроўшчык, заслужаны артыст цырка Расіі Юрый Аляксандраў з адным са сваіх выхаванцаў станцаваў вальс.

Так, юбілейны сезон стартаваў у шапіто, а стацыянарны мінскі цырк пакуль на рамонце. Дарэчы, там ідзе вялікая рэканструкцыя, і аматары цыркавога мастацтва спадзяюцца, што ў будучыні ён стане адной з лепшых цыркавых арэн Еўропы.


УЛАДЗІМІР ЖДАНОВІЧ

**Дрэсіроўшчык Юрый Аляксандраў і яго выхаванцы — любімцы публікі**

# Гран-пры Кірыла Башарымава

**Сяргей Кулягін**

**Выхаванец дзіцячай эстраднай студыі "Вясёлыя ноткі" з Магілёва вызначыўся на IX Міжнародным фестывалі-конкурсе "Планета дзяцінства" ў Маскве.**

Прадстаўнічае журы і публіку заваявала выкананне маладым вакалістам такіх складаных твораў, як "Белавежская пушча", "Памяці Карузэ" на італьянскай мове. Гэта ўжо трэцяе Гран-пры Кірыла на міжнародных конкурсах.

Не пакінулі нікога абыякавымі і выступленні іншых удзельнікаў беларускай студыі "Планета дзяцінства": вакальная група хлопчыкаў "Сорванцы" ў намінацыі "вакальныя ансамблі" заняла першае месца, васьмігадовая вакалістка Ульяна Гузоўская — трэцяе, дуэт з вакальнай групы "Переменка" Вольгі Разнаровіч і Ганны Філіпенка — таксама трэцяе месца.

У конкурсе вакалістаў сапернічалі прадстаўнікі з больш чым сарака рэгіёнаў Расіі, Беларусі і Украіны.

# Гледачоў чакае прэм'ера

**Кацярына Сідзелава**

**Рэпертуар Драматычнага тэатра Беларускай арміі папоўніцца спектаклем "Сабака на сене" іспанскага драматурга Лопэ дэ Вега**

Сцэнарый спектакля напісаны галоўным рэжысёрам тэатра Марынай Дударавай. У спектаклі будзе выкарыстана музыка беларускага кампазітара Уладзіміра Кандрусевіча. Акцёры тэатра ўжо прыступілі да рэпетыцый. Прэм'ера плануецца на канец вясны. Па словах мастацкага кіраўніка тэатра Аляксея Дударава, у спектаклі будзе максімальна занята ўся трупа.

Да канца года тэатр таксама плануе пастаноўку новага спектакля аб сучаснай беларускай арміі. Гэта стане своеасаблівым падарункам тэатра да 65-годдзя святкавання перамогі над фашысцкімі захопнікамі. Цяпер у рэпертуары тэатра ёсць тры "ваенныя" пастаноўкі.

# Аб гербах — з дапамогай анімацыі

**Мультыплікацыйны цыкл "Аповесць мінулых гадоў- 3" беларускіх кінематаграфістаў стаў лаўрэатам чатырнаццатага Фестывалю анімацыйнага кіно, які прайшоў у расійскім Суздалі**

Праект перамог у намінацыі "Лепшае выяўленчае рашэнне". Суздальскі фестываль — самы прэстыжны на постсавецкай прасторы конкурс мультыплікатараў. Сярод яго фаварытаў былі і работы, якія пазней намінаваліся на прэмію "Оскар". Сёлета ў праграме фестывалю ўдзельнічалі больш за сто фільмаў з Расіі, Беларусі і Украіны.

Трэцяя частка беларускага анімацыйнага цыклу "Аповесці", якая перамагла ў Суздалі, прысвечана паходжанню гербаў Чэрвеня, Шклова, Полацка, Навагрудка і Пружан. Дарэчы, першая і другая частка распавядаюць пра гісторыю сімволік Мінска і абласных гарадоў. Над праектам працавала вялікі творчая група кінастудыі.Перамогаў намінацыі "Лепшае выяўленчае рашэнне" — заслуга адразу пяці мастакоў-мультыплікатараў: Ганны Емяльянавай, Таццяны Кубліцкай, Міхаіла Тумеля, Кастуся Касцючэнкі і Яўгена Надтачэя. Дарэчы, Міхаіл Тумель прывёз з фестывалю яшчэ адну ўзнагароду — спецыяльны дыплом за цыкл "Беларускія прымаўкі".



РОДНАЯ МОВА

# Пра што слова гаворыць

Вясна на двары — пара абуджэння пачуццяў. Дарэчы, а ці ведаеце вы, што ў беларускай мове ёсць два назоўнікі: пачуцце і пачуццё, якія адрозніваюцца не толькі націскам, але і па значэнні? Прапаную разабрацца, у чым жа розніца

**Пачуцце** — гэта здольнасць адчуваць, успрымаць з'явы навакольнай рэчаіснасці. Такім чынам, правільна казаць: *пачуцце зроку, пачуцце слыху, пачуцце дотыку.*

**Пачуццё** ж паняцце больш шырокае. Гэта слова ўжываецца са значэннем "здольнасць усведамляць, перажываць, разумець штонебудзь на аснове адчуванняў, уражанняў" і як сінонім да каханне. Значыць, неабходна гаварыць: *пачуццё гумару, пачуццё новага, пачуццё годнасці.*

Цікава, што ў множным ліку абодва гэтыя назоўнікі вымаўляюцца аднолькава — **пачуцці**, **пачуццяў**, **пачуццям**.

***

А цяпер пра беларускія назвы вясенніх месяцаў.

Вядома, што нашы продкі называлі сакавік — **марцам**. Гэта найменне сустракаецца ў помніках старабеларускай пісьменнасці, куды пранікла, на думку навукоўцаў, з польскай мовы. Слова *марац* — кампанент устойлівага выразу, якім карыстаемся і цяпер: *цешыўся старац, што перажыў марац, а прыйшоў вясёлы май і панеслі старца ў гай.*

Першы месяц вясны ў славян асацыяваўся з рознымі прыкметамі, якія пакладзены ў аснову яго найменняў. Так, напрыклад, старажытнаруская і балгарская назва сакавіка — *сухый*, у некаторых гаворках сучаснай рускай мовы месяц завуць *свістуном* з-за вятроў.

Красавік у некаторых старажытных пісьмовых крыніцах называецца **беразазолам**. Гэта слова складаецца паводле ўтварэння: першая яго частка — ад назвы дрэва, другая — указвае на ўздзеянне знешняга цяпла, якое выклікае рух соку ў бярозе. Што датычыцца другой асновы, то з ёй звязаны дзеясловы *зарыць, зарніць. Зарыць ягады* — гэта выстаўляць іх на сонца, каб даспелі. *Зарніць пражу* — выстаўляць яе вясной зраніцы, каб яна пабялела.

Беларусы раней шырока карысталіся словам **квецень** у дачыненні да другога месяца вясны. Гэты назоўнік польскага паходжання. Украінцы называюць другі вясновы месяц словам *цвецень*. А ў рускім прастамоўі з такім жа значэннем бытавала спалучэнне *заиграй-овражки*, гэта значыць, час вясновых ручаёў, патокаў, што бягуць па схілах гор і яроў. У сучаснай беларускай мове замацавалася слова красавік. Тлумачэнне такое — гэта час, калі распускаюцца краскі на лузе і ў полі.

**Травень** — славянская назва мая. У ёй адбіўся шматвяковы досвед беларусаў, іх пільная ўвага да адметнасцяў прыроднага цыкла пор года. Травень — травяністы, багаты на траву, апошні месяц вясны, пара сенакосу. Яшчэ адзін сінонім сучаснага наймення месяца **май** — назоўнік **мур** (ад *мурава*, што значыць *трава*). А пачатак гэтага месяца называлі яшчэ *росенікам* (ад *раса*).

**Веранiка Бандаровіч**

**Заснавальнік:** Рэдакцыя газеты «СБ»
**Рэдактар** Віктар Харкоў
**Адрас:** пр. Незалежнасці, 44, Мінск, 220005
**Тэлефон рэдакцыі:** +375 17 288—12—80; факс: +375 17 288—12—80
**Рэгістрацыйнае пасведчанне № 61**
**Бюро па рэкламе:** Тэл. +375 17 290—60—11
**E—mail:** golas_radzimy@tut.by
Газета надрукавана ў Рэспубліканскім унітарным прадпрыемстве «Выдавецтва «Беларускі Дом друку»
**Аб'ём выдання:** 1 друк. арк.
**Тыраж:** 2000
**Заказ:** 392